www.nv-online.info

№ 36 (3981)

12 мая 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**Ідзе падпіска на “Народную Волю” на чэрвень і другую палову 2015 года. Вас чакаюць у паштовых аддзяленнях і ў спецыялізаваных пунктах “Белсаюздруку”. Будзем разам!**

ВІЗІТ

# Сышліся два шляхі



Фота news.cn

Можа падацца, што пасля візіту ў Беларусь старшыні Кітайскай Народнай Рэспублікі Сі Цзіньпіна грошы на нас проста з неба паваляцца. Спачатку гаварылася пра мільярд долараў, якія нам дасць Кітай, потым – пра сем мільярдаў, потым – пра 50 мільярдаў штогод... Як кажуць, каб пачутае ды ўбачыць!

Кіраўнік Кітая – адна з самых упловавых палітычных асоб у свеце і проста так, дзеля экскурсіі, краіны з візітамі не наведвае. Таму не дзіўна, што прыезд Сі Цзіньпіна ў Мінск можа стаць для Беларусі галоўнай знешнепалітычнай падзеяй года (калі не дзесяцігоддзя). Прычым Беларусь была апошняй кропкай турнэ Сі Цзіньпіна: перад намі ён наведаў Казахстан і Расію. Галоўную мэту гэтых трох візітаў кітайскі бок акрэсліў аднолькава – рэалізацыя так званых “шаўковых канцэпцый”.

Нагадаем, што ў старажытнасці і ў сярэднія вякі існаваў Вялікі шаўковы шлях, які звязваў Усходнюю Азію з Міжземнамор’ем. У першую чаргу ён выкарыстоўваўся для вывазу з Кітая шоўку, з чым і звязана яго назва. Цяпер Кітай гатовы гандляваць усім і з усім светам. Адсюль і ўзніклі новыя “шаўковыя канцэпцыі”.

Так, у верасні 2013 года падчас візіту ў Казахстан старшыня КНР прапанаваў ініцыятыву будаўніцтва «Эканамічнага пояса Шаўковага шляху», а падчас візіту ў Інданезію – канцэпцыю стварэння «Марскога Шаўковага шляху XXI стагоддзя». Першы павінен стаць еўразійскім кантынентальным мостам ад Ціхага акіяна да Балтыйскага мора, буйным транспартным калідорам, які цесна звяжа Цэнтральную Азію з Еўрасаюзам і азіяцкаціхаакіянскім рэгіёнам. Другі – забяспечыць такі ж калідор па морах і акіянах. Зразумела, што Беларусь у праекце разглядаецца як важная транзітная краіна, максімальна набліжаная да ЕС.

Зразумела і тое, што Беларусь усяляк падтрымлівае гэты праект. Але...

«Мы зробім усё, каб вы ніколі не пашкадавалі, што прыехалі ў нашу краіну. Зробім усё неабходнае, каб вы маглі эфектыўным чынам прасоўваць свае інтарэсы ў Еўропе», – падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка, звяртаючыся да старшыні КНР Сі Цзіньпіна на цырымоніі адкрыцця беларуска-кітайскага міжрэгіянальнага бізнес-форума. Чым фактычна пацвердзіў даўнюю засцярогу экспертаў наконт кітайскіх праектаў: каб яны запрацавалі на поўную моц, Беларусі неабходна наладзіць стасункі з Еўропай. Без гэтага мы Кітаю не патрэбны.

Такім чынам, Кітай, які сам мае шмат праблем з дэмакратыяй і таму ніколі не крытыкуе аўтарытарныя рэжымы, фактычна падштурхоўвае Беларусь да нармалізацыі стасункаў з Захадам. Інакш усе беларуска-кітайскія праекты, у тым ліку і такія грандыёзныя, як стварэнне індустрыяльнага парку “Вялікі камень”, застануцца толькі на паперы. І не ўбачым мы кітайскіх інвестыцый як сваіх вушэй. Хіба толькі крэдыты. І то не грашыма, а пастаўкамі абсталявання кітайскай вытворчасці. Якое ў беларускіх умовах, як паказвае вопыт, працуе не вельмі добра, затое каштуе як найлепшае ў свеце.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

ДА ВЕДАМА

Дыпламатычныя адносіны паміж Рэспублікай Беларусь і Кітайскай Народнай Рэспублікай былі ўсталяваны ў студзені 1992 года. У гэтым самым годзе ў Мінску было адкрыта Пасольства КНР, а з 1993 года беларускія дыпламаты сталі працаваць у Пекіне.

Аляксандр Лукашэнка на пасадзе кіраўніка Беларусі наведваў Кітай у 1995, 1997, 2001, 2005, 2010 і 2013 гадах, ён таксама прысутнічаў на адкрыцці Алімпійскіх гульняў 2008 года ў Пекіне, спалучыўшы сваю паездку з рабочым візітам.

КНР з візітамі таксама наведвалі прэм’ер-міністр Рэспублікі Беларусь (1996, 2014 гады), першы намеснік старшыні ўрада (2007, 2010 гады), старшыні Палаты прадстаўнікоў (1998, 2005 і 2009 гады) і Савета Рэспублікі (2002 год).

У сваю чаргу ў Беларусь рабілі візіты старшыня КНР Цзян Цзэмінь (2001), намеснік старшыні КНР Ху Цзіньтао (2000), намеснік старшыні КНР Сі Цзіньпін (2010), прэм’еры КНР Лі Пэн (1995) і Вэнь Цзябао (2007).

Па выніках 2014 года Кітай, паводле аб’ёму тавараабароту, заняў пятае месца сярод гандлёвых партнёраў Беларусі, яго доля ў тавараабароце знешняга гандлю Беларусі склала 3,8% (Расіі – 49%, Украіны – 7%, Вялікабрытаніі – 7%, Германіі – 5%).

АНОНС

## *Иван Данилов, профессор, бывший советский партизан-разведчик:*

# Полуправда – не правда

Давно редакция газеты «Народная Воля» не отводила столько места одной публикации, как сделала это в сегодняшнем номере (7–8-я стр.), поместив без сокращений огромнейшую статью И.Данилова. И, уверены, поступили правильно.

Что и говорить, полуправда – излюбленный прием советских фальсификаторов истории. Нанизывая на одно правдивое событие массу целенаправленной лжи, они создавали (а их последователи продолжают создавать) иллюзию достоверности, искажая таким образом историческую сущность.

Вот почему советуем всем читателям «Народной Воли» найти время и ознакомиться с публикацией профессора, бывшего советского партизана-разведчика **Ивана Петровича Данилова.**

ПРАЕКТ

# Дзе знайшлі «Вялікі камень»?

Сёння Сі Цзіньпін і Аляксандр Лукашэнка наведаюць месца будаўніцтва Беларуска-Кітайскага індустрыяльнага парку “Вялікі камень”.

Пляцоўка маштабнага праекта знаходзіцца ў 25 кіламетрах ад Мінска, недалёка ад вёскі Быкачына. Па задумцы, хутка тут павінен з’явіцца... горад. А пакуль з усіх бакоў бачна тэхніка: самазвалы, бульдозеры, землярыйныя машыны.

Будаўніцтвам аб’екта займаюцца як кітайскія, так і беларускія арганізацыі: усяго – 110 рабочых з Кітая і каля 150 беларускіх субпадрадчыкаў. Брыгады будаўнікоў з Кітая працуюць вахтавым метадам – прыязджаюць на паўгода, жывуць у бытавым гарадку, які вырас тут на пачатку гэтай вясны. Ён уключае ў сябе чатыры інтэрнаты і сталовую. З беларускага боку будаўніцтва вядзе будаўнічы трэст №3 Салігорска, з кітайскай – карпарацыя CAMC Engineering.

На дадзены момант ужо скончаны падрыхтоўчы перыяд – будаўніцтва жылога гарадка і адміністрацыйных будынкаў, пракладка часовых інжынерных сетак, водаправода і таму падобнага. Нядаўна атрыманы дазвол на будаўніцтва ўнутранай інфраструктуры будучага індустрыяльнага парку. Зараз ідзе прапрацоўка так званай стартавай зоны, перыметр якой утвараюць чатыры галоўныя вуліцы. Гэта прыкладна 350 гектараў зямлі.

Паводле задумкі, тут павінен нарадзіцца новы горад. Акрамя прадпрыемстваў, у планах будаўніцтва жылых дамоў, офісных і забаўляльных комплексаў, фінансавых і навукова-даследчых цэнтраў. Работы вядуцца ў дзве змены.

У цэлым парк зойме 9000 гектараў. Калі верыць нядаўняй заяве старшыні Мінскага аблвыканкама Сямёна Шапіры, вялікая частка інфраструктуры ў Кітайска-Беларускім індустрыяльным парку «Вялікі камень» павінна быць пабудавана да канца 2015 года.

Першая інфармацыя аб будаўніцтве Беларуска-кітайскага індустрыяльнага парку з’явілася пяць гадоў таму. Тады Міністэрства эканомікі Беларусі і кітайская карпарацыя CAMC Engineering дамовіліся аб супрацоўніцтве і ў якасці галоўнага сумеснага праекта вызначылі так званы «тэхнапарк» – спецыяльную зону, дзе размесцяцца высокатэхналагічныя вытворчасці. Яшчэ два гады працавала міжурадавая камісія, і ў чэрвені 2012 года ўказ аб стварэнні парку падпісаў прэзідэнт Беларусі. Было заяўлена, што рэалізацыя гэтага праекта можа прынесці Беларусі каля 50 мільярдаў долараў ЗША ў год. Рэзідэнтамі парку ўжо сталі буйныя кітайскія карпарацыі Huawei і ZTE.

Рэзідэнтам парку абяцаны сур’ёзныя льготы. У першыя дзесяць гадоў яны вызваляюцца ад выплаты падаткаў на прыбытак, нерухомасць і зямлю. Рэжым свабоднай мытнай зоны вызваляе іх ад выплаты плацяжоў пры ўвозе тавараў. Таксама ўстаноўлены льготныя стаўкі для імпарту сыравіны. Купіць або ўзяць у арэнду зямельныя ўчасткі можна на 99 гадоў. Стаць рэзідэнтамі парку змогуць любыя кампаніі незалежна ад краіны паходжання капіталу.

Правобразам «Вялікага каменя» стаў тэхнапарк у кітайскім Сучжоу. За 30 гадоў ён ператварыў горад у сучасны прамысловы мегаполіс.

НАДВОР’Е

# Пагрэліся? З серады пахаладае

Паводле дадзеных сіноптыкаў, у сераду праз Беларусь будзе праходзіць атмасферны фронт, які прынясе ноччу па заходняй палове, днём на большую частку тэрыторыі кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы. Раніцай і днём месцамі ўзмацненне ветру парывамі да 15–17 м/с. Тэмпература паветра мінімальная ноччу плюс 5–11°С, па захадзе да плюс 13°С; максімальная днём плюс 11–18°С, па паўднёвым усходзе плюс 19–23°С.

*«Пачынаючы з чацвярга і да канца тыдня надвор’е будуць вызначаць няўстойлівыя, халаднаватыя і вільготныя паветраныя масы, што ідуць з паўночных шырот. Тэмпература паветра чакаецца на 2–4 градусы ніжэйшая за норму»,* – паведаміў начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага цэнтра па гідраметэаралогіі, кантролі радыеактыўнага забруджання і маніторынгу навакольнага асяроддзя **Дзмітрый Рабаў.**

## Адсвяткавалі...

Болей за 1,8 мільёна чалавек прынялі ўдзел у масавых мерапрыемствах, прысвечаных 70-годдзю Перамогі. Пра гэта паведаміў начальнік аддзела ўпраўлення аховы правапарадку МУС **Уладзімір Станілевіч**. Найбольш масавыя мерапрыемствы прайшлі ў сталіцы. Паводле яго інфармацыі, паглядзець парад да абеліска “Мінск — горад-герой” прыйшлі каля 600 тысяч мінчан і гасцей сталіцы, а на салюце прысутнічала больш за 200 тысяч чалавек.

# Віншуем, Уладзімір Валяр’янавіч!

Сёння, 12 мая, вялікі юбілей у цудоўнага чалавека, шчырага, спагадлівага беларуса, знакамітага спецыяліста ў галіне айчыннага машынабудавання **Уладзіміра Валяр’янавіча РАДКЕВІЧА.** Яму – 80!

За плячыма – глыбокі жыццёвы след, багаты вопыт, шмат здзейсненага, таго, чым можна не толькі ганарыцца, але і быць добрым прыкладам для іншых.

Пасля заканчэння інстытута ён зведаў нялёгкі хлеб на многіх шараговых службовых пасадах. Да таго, як у далёкім 1969 годзе стаў галоўным інжынерам Адзінаццатага падшыпнікавага завода, лепшага сярод аналагічных прадпрыемстваў Савецкага Саюза, прайшоў многія прыступкі службовай лесвіцы, зарэкамендаваў сябе па-сапраўднаму ініцыятыўным, творчым спецыялістам. Яго актыўная грамадзянская пазіцыя спрыяла прафесійнаму росту.

З 1986-га па 1990 год Уладзімір Валяр’янавіч узначальваў Навукова-вытворчае аб’яднанне “Дормаш”. За гэтыя гады стварыў усе умовы для ператварэння аб’яднання савецкага тыпу ў рынкавую прамысловую структуру «Амкадор».

У ліпені 1990 г. ён быў прызначаны старшынёй Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па знешнеэканамічных сувязях, які потым быў ператвораны ў міністэрства.

Па сутнасці, з нуля стварыў сістэму знешнеэканамічных сувязяў краіны, прыцягнуўшы ў яе кампетэнтных маладых людзей, якія атрымалі добрую падрыхтоўку ў вытворчых калектывах, валодалі замежнымі мовамі. Шмат хто з іх і сёння працуе на ключавых пасадах. У гэтыя гады пад яго кіраўніцтвам была створана і неабходная заканадаўчая база для арганізацыі знешнеэканамічнай дзейнасці.

Амаль 10 год, з 1996-га па 2005-ы, у складаны час перманентных крызісаў і станаўлення Рэспублікі Беларусь узначальваў Савет дырэктараў ААТ “Амкадор”.

Шаноўны Уладзімір Валяр’янавіч!

Мы, Вашы калегі і сябры, ад душы віншуем Вас з юбілеем! З радасцю ўзгадваем тыя гады, калі працавалі поруч з Вамі. Ваша цеплыня, Ваша чуласць да людзей, адказны падыход да справы заўважаліся на кожным кроку.

Трымайцеся, Уладзімір Валяр’янавіч! Здароўя Вам і радасці яшчэ многія-многія гады!



**Калегі і сябры.**

ШАЙ-БУ!

# Апетыт прыходзіць падчас гульні

*Беларуская зборная працягвае выступленне на чэмпіянаце свету па хакеі, які праходзіць у Чэхіі.*

Перад чэмпіянатам кіраўнік Федэрацыі хакея Беларусі **Ігар Рачкоўскі** распавёў пра напалеонаўскія планы настаўніка зборнай Беларусі **Дэйва Льюіса**.

*«Задача – змагацца за медалі*, – заявіў Рачкоўскі. – *Няхай нехта, магчыма, да гэтага ставіцца з гумарам. Можа быць, будуць гэта абмяркоўваць, але Дэйв паставіў камандзе менавіта такую задачу. Ён сказаў, што нам па сілах узяць медалі і мы да гэтага павінны імкнуцца”.*

Словы Рачкоўскага ў красавіку і на самай справе ўспрынялі як жарт, але апетыт прыходзіць падчас гульні. Нічога не магу сказаць пра медалі, але за тую гульню, якую паказалі нашы хлопцы ў першых чатырох матчах (выйгралі ў Славеніі – 4:2, у Даніі – 5:1, у ЗША – 5:2 і прайгралі ў авертайме славакам – 1:2), перад імі і цяпер можна зняць капялюш. Упартасць, воля, жаданне змагацца і перамагаць... Усё гэта прысутнічала, а што яшчэ трэба?

Праўда, лыжкай дзёгцю стала паражэнне ў Дзень Перамогі ад расіян – 0:7, але будзем спадзявацца, што гэта збег абставін – і не больш.

*“Радуе, што наша зборная дэманструе атакуючы хакей*, – пракаментаваў першыя сустрэчы беларускі трэнер **Андрэй ГУСАЎ,** які ўчора таксама адправіўся ў Чэхію на першынство. – *Асобна хацелася б адзначыць варатара Кевіна Лаланда* (некалькі гадоў таму канадзец атрымаў беларускае грамадзянства. – **Аўт.**). *У Беларусі нарэшце з’явіўся галкіпер самага высокага ўзроўню. З ім ігракі адчуваюць сябе ўпэўнена. Што да адсутнасці Міхаіла Грабоўскага і некаторых іншых вядомых хакеістаў, то тут нічога страшнага няма. У сітуацыі, калі для некага дзверы зачыняюцца, яны абавязкова адчыняюцца для іншых. Свой шанц на чэмпіянаце атрымалі маладыя. І яны выглядаюць прыстойна”.*

Дарэчы, у матчы са зборнай Расіі той жа Лаланд з-за траўмы так і не дагуляў сустрэчу... Будзем спадзявацца, што траўма не вельмі сур’ёзная.

Зараз беларусам, каб патрапіць у васьмёрку мацнейшых каманд свету, дастаткова ў двух матчах заваяваць два ачкі.

**Становішча каманд у групе “В”** *(без уліку ўчарашніх матчаў):* ЗША – 15 ачкоў (6 гульняў), Расія – 14 (6), Фінляндыя – 12 (5), **Беларусь – 10 (5),** Славакія – 8 (6), Нарвегія – 6 (6), Данія – 4 (6), Славенія – 0 (6).

**Алесь СІВЫ.**

**P.S.** *Графік выхаду газеты не дазваляе паведаміць вынік учарашняга матча, у якім сустракаліся зборныя Беларусі і Фінляндыі. 12 мая беларускія хакеісты згуляюць з камандай Нарвегіі. За аператыўнай інфармацыяй сачыце на нашым сайце nv-online.info.*

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

# 10 причин,

## почему Декрет №3 противоречит Конституции Республики Беларусь и ее международным обязательствам

Пунктом 1 Декрета Президента Республики Беларусь №3 «О предупреждении социального иждивенчества» от 02.04.2015 установлено, что граждане Республики Беларусь, иностранные граждане и лица без гражданства, получившие разрешение на постоянное проживание в Республике Беларусь, в случае их неучастия в финансировании государственных расходов или участия в таком финансировании менее 183 календарных дней в налоговом периоде признаются плательщиками сбора на финансирование государственных расходов.

Под финансированием государственных расходов в статье 56 Конституции подразумевается уплата налогов от трудовой, коммерческой и иной общеполезной законной деятельности, уплата пошлин, иных платежей и сборов за услуги, оказываемые государством гражданам и юридическим лицам.

1.Статья 41 Конституции провозгласила, что гражданам Республики Беларусь гарантируется право на труд как наиболее достойный способ самоутверждения человека, то есть право на выбор профессии, рода занятий и работы в соответствии с призванием, способностями, образованием, профессиональной подготовкой и с учетом общественных потребностей, а также на здоровые и безопасные условия труда. Принудительный труд запрещается – закреплено в части 4 статьи 41 Конституции. Аналогичный запрет содержится в статье 13 Трудового кодекса. Таким образом, содержание статьи 41 Конституции, наряду с иными гарантиями прав и свобод, которые заложены в Основном Законе, позволяют утверждать, что нам гарантируется как право **на свободный труд**, так и право трудоспособного гражданина **не заниматься трудовой деятельностью**.

2.Республика Беларусь является членом Международной организации труда с 1954 года. Она ратифицировала 30 июня 1956 года Конвенцию №29 о принудительном труде (1930 г.) и 25 сентября 1995 года Конвенцию №105 об упразднении принудительного труда (1957 г.). Данные Конвенции налагают на государства-члены обязательства по претворению их положений в жизнь. Согласно п.1 ст.2 Конвенции №29 для целей указанной Конвенции термин **«принудительный или обязательный труд» означает всякую работу или службу, требуемую от какого-либо лица под угрозой какого-либо наказания, для выполнения которой это лицо *не* предложило своих услуг добровольно.** Кроме того, запрет на использование принудительного труда содержится в подпункте «а» пункта 3 ст.8 Международного пакта о гражданских и политических правах. В нем указано: *«никто не должен принуждаться к принудительному или обязательному труду».* А в пункте 1 ст.6 Международного пакта об экономических, социальных и культурных правах закреплено право каждого человека *«на получение возможности зарабатывать себе на жизнь трудом, который он свободно выбирает или на который он свободно соглашается».* Оба пакта ратифицированы Республикой Беларусь 12 ноября 1973 года, и их нормы являются частью национального законодательства и подлежат непосредственному применению. Отсюда следует, что **нормы Декрета нарушают нормы международных договоров Республики Беларусь о запрете принудительного труда.**

3.Чтобы скрыть новую форму введенного в Беларуси принудительного труда, запрещенного Конституцией (часть 4 статьи 41) и международными конвенциями МОТ, законодатель в Декрете оперирует терминами об обязанности *«принимать участие в финансировании государственных расходов»,* предусмотренных в статье 56 Конституции (уплата государственных налогов, пошлин и иных платежей). В данном случае, я считаю, идет подмена понятий. Конституция и Налоговый кодекс имеют в виду обязательную уплату государственных налогов с налоговых баз при определенных видах деятельности; уплату установленных размеров пошлины, иных платежей и сборов за выполнение юридически значимых действий в интересах граждан со стороны государства (услуги). К примеру, госпошлина за обращение в суд, нотариальную контору, таможенные платежи, регистрационные сборы и т.д. (понятие налогов, сборов, пошлин дается в статье 6 Налогового кодекса Республики Беларусь). Применительно к данному сбору затруднительно найти и определить элементы обложения. Этот сбор не вписывается ни в какие устоявшиеся в мировой практике правовые рамки обоснования необходимости взимания налогов, пошлин и иных целевых платежей. Таким образом, Декретом №3, согласно его содержанию, **вводится сбор в виде санкции за неучастие трудоспособных граждан в трудовой деятельности, а за неуплату его – привлечение к административной ответственности.** Как назвали его в народе «налог на тунеядство».

*(Окончание на 3-й стр.).*

